# ПЕРШАЯ КНІГА МАСЕЯВА: БЫЦЬЦЁ

1 На пачатку стварыў Бог нябё-
сы й зямлю. 2 А зямля была́
бяз хормы а пустая, і цемнь была
над бяздоньням; і Дух Божы лу-
наў над відам водаў.
3 І сказаў Бог: „Станься сьвятлі-
ня". І сталася сьвятліня. 4 І ба-
чыў Бог тую сьвятліню, што доб-
рая, і адлучыў Бог тую сьвятліню
ад тае цемні. 5 І назваў Бог сьвят-
ліню днём, а цемнь назваў ночай.
І быў вечар, і была раніца: дзень
адзін.
6 І сказаў Бог: „Станься прась-
цяг сярод водаў і дзялі воды ад во-
даў". 7 І ўчыніў Бог прасьцяг, і ад-
лучыў воды, што пад прасьцягам,
ад водаў, што над прасьцягам. І
сталася так. 8 І назваў Бог прась-
цяг нябёсамі. І быў вечар, і была
раніца: дзень другі.
9 І сказаў Бог: „Няхай зьбяруц-
ца воды з пад нябёсаў у вадно мес-
ца, і няхай зьявіцца сухазем". І
сталася так. 10 І назваў Бог суха-
зем зямлёю, а збор водаў назваў
морамі. І бачыў Бог, што добра.
11 І сказаў Бог: „Няхай выдасьць
зямля траву́, зяленіва сеючае семя,
пладовае дзерва, што даець плод
подле роду свайго, у каторым семя
ягонае ў ім на зямлі". І сталася
так. 12 І выдала зямля траву, зя-
ле́ніва, семя сеючае подле роду
свайго, і дзерва, што даець плод,
у каторым семя яго подле роду яго.
І бачыў Бог, што добра. 13 І быў
вечар, і была раніца: дзень трэйці.
14 І сказаў Бог: „Станьцеся сьвет-
лы на прасьцязе нябёс, дзеля адрозь-
неньня дня ад ночы, і будуць на
знакі а на поры а на дні а на га-
ды. 15 І будуць яны сьветламі на
прасьцязе нябёс сьвяціць на зямлі."
І сталася так. 16 І ўчыніў Бог тыя
два сьветлы вялікія: сьветла вялі-
кае, ра́дзіць дзень, і сьветла малое,
ра́дзіць ноч, і гвезды. 17 І пастана-
віў іх Бог на прасьцязе нябёс, сьвя-
ціць на зямлю, 18 І ра́дзіць дзень
і ноч, і адлучаць сьвятліню ад цем-
ні. І бачыў Бог, што добра. 19 І быў
вечар, і была раніца: дзень чаць-
верты.
20 І сказаў Бог: „Няхай выда-
дуць воды паўзуны, істу дыхаю-
чую; і птуства няхай лётае над
зямлёю скрозь прасьцяг нябёс."
21 І стварыў Бог дзіўствы вялікія
і ўсялякую поўзаючую істу ды-
хаючую, каторыя выдалі воды, под-
ле роду іх, і ўсялякае птуства кры-
латае подле роду ягонага. І бачыў
Бог, што добра. 22 І дабраславіў
іх Бог, кажучы: „Пладзіцеся а
множчася а напаўняйце воды ў
морах, і птуства няхай множыцца
на зямлі". 23 І быў вечар, і была
раніца: дзень пяты.
24 І сказаў Бог: „Няхай вы-
дасьць зямля дыхаючую істу под-
ле роду ейнага, статак а паўзуны а
жывёлу земную подле роду ейна-
га. І сталася так. 25 І ўчыніў Бог
жывёлу земную подле роду ейнага,
і статак подле роду ягонага, і ўся-
кага паўзуна зямлі подле роду яго-
нага. І бачыў Бог, што добра.
26 І сказаў Бог: „Учынім чала-
века на абраз наш, подле падоб-
насьці нашае; і няхай пануе над
рыбаю морскай, і птушкаю нябёс-
най, і статкам, і ўсёй зямлёю, і ўся-
кім паўзуном, што поўзае па зям-
лі". 27 І стварыў Бог чалавека на
абраз Свой, на абраз Божы ства-
рыў яго; мужчыну й жонку ства-
рыў іх.

28 І дабраславіў іх Бог, і сказаў
ім: „Пладзіцеся а множчася а на-
паўняйце зямлю, і паддайце яе са-
бе, і пануйце над рыбаю морскай,
і птушкаю нябёснай, і ўсялякім
жывучым, што поўзае па зямлі".
29 І сказаў Бог: „Вось, Я даў вам
усялякую траву, што выдаець із
сябе насеньне, якая ё на відзе ўсяе
зямлі, і ўсялякае дзерва, у каторым
ё плод дзерва, што сее насеньне;
гэта будзе вам на емя. 30 А ўсёй
жывёле земнай, і ўсёй птушцы ня-
бёснай, і ўсяму, што поўзае па зям-
лі, у каторым дыханьне жывое, даў
Я ўсе зяленіва траўнае на жыр".
І сталася так.
31 І бачыў Бог усе, што ўчыніў,
і вось, добра вельмі ё. І быў вечар,
і была раніца: дзень шосты.

2 І даканчаны нябёсы й зямля і
ўсе войска іх. 2 І дакончыў Бог
сёмага дня дзела Свае, каторае Ён
чыніў, і перастаў тварыць сёмага
дня ўсе дзела свае, каторае ўчыніў.
3 І дабраславіў Бог сёмы дзень, і
пасьвяціў яго; бо ў гэты перастаў
тварыць усе дзела Свае, каторае
тварыў Бог, каб чыніць.
4 Вось паходжаньне нябёсаў і
зямлі, у стварэньню іх, у дзень, у
каторым учыніў СПАДАР Бог зям-
лю й нябёсы, 5 І ўсялякія паля-
выя кусты, уперад чымся яны рась-
лі, і ўсялякую палявую траву,
каторая дагэнуль не расла; бо СПА-
ДАР Бог не пасылаў дажджу на
зямлю, і ня было чалавека рабіць
зямлю. 6 І пáра падыймалася із
зямлі, і навадняла ўвесь від зям-
лі. 7 І ўхармаваў СПАДАР Бог ча-
лавека з пылу зямлі, і ўдыхнуў у
ноздры ягоныя дых жыцьця, і стаў
чалавек душою жывою.
8 І насадзіў СПАДАР Бог сад ув
Эдэме, на ўсходзе, і памясьціў там
чалавека, каторага ўхармаваў. 9 І
вырасьціў СПАДАР Бог із зямлі
ўсялякае дзерва, прынаднае на па-
гляд і добрае на емя, і дзерва жыць-
ця сярод тога саду, і дзерва ведань-
ня дабра й ліха.
10 І рака выходзіла з Эдэму дзе-
ля навадненьня саду; і стуль падзя-
лілася, і былí чатыры галоўныя
рэкі. 11 І імя аднае Фісон: яна аб-
цякае ўсю зямлю Гавіла, тую, ідзе
золата; 12 І золата тае зямлі доб-
рае; там ёсьць бдалях і камень
анікс. 13 І імя другое ракі Гігон:
яна абцякае ўсю зямлю Куш.
14 Імя трэйцяе ракі Гідэкэль: яна
цячэць перад Асыраю. І чацьвертая
рака Еўфрат.
15 І ўзяў СПАДАР Бог чалавека,
і асяліў яго ў садзе Эдэмскім, ураб-
ляць і сьцерагчы яго. 16 І раска-
заў СПАДАР Бог чалавеку, кажу-
чы: „З кажнага дзерва ў садзе ты
будзеш свабодна есьці; 17 Але зь
дзерва веданьня дабра й ліха ня
еж із яго; бо ў дзень, у каторым
ты зьясі зь яго, сьмерцю памрэш".
18 І сказаў СПАДАР Бог: „Ня
добра быць чалавеку адзінотнаму;
ствару яму памачнікá, яму адка-
зуючага". 19 І ўхармаваў СПАДАР
Бог із зямлі ўсю жывёлу палявую
і ўсе птуства нябёснае, і прывёў да
чалавека, каб бачыць, як ён наза-
вець іх, і ўсе як назавець чалавек
кажную дыхаючую істу, так і бы-
ло імя ёй. 20 І назваў чалавек імё-
ны ўсяму статку і птуству нябёс-
наму, і ўсім зьвяром палявым; але
чалавеку не знайшлося памачніка,
яму адказуючага.
21 І спусьціў Бог на чалавека
цьвярды сон, і ён заснуў, і ўзяў
адну із скабаў ягоных, і закрыў
тое месца целам замест яе. 22 І па-
будаваў СПАДАР Бог тую скабу,
каторую выняў з чалавека, у жон-
ку, і прывёў яе да чалавека. 23 І
сказаў чалавек: „Во, гэтым разам
косьць із косьцяў маіх і цела зь це-
ла майго. Затым будзе яна звацца
жонкаю, бо з мужа ўзята гэту".
24 Затым пакіне чалавек айца
свайго й маці сваю, і прыліпне да

жонкі свае, — і будуць целам ад-
ным.
25 I былі абое голыя, чалавек і
жонка ягоная, і не сароміліся.

3 Гад быў найхітрэйшы з усіх
зьвяроў палявых, каторыя ўчы-
ніў СПАДАР Бог. I сказаў жонцы:
„Ці запраўды сказаў Бог: ‚Ня еж-
ча ні зь якага дзерва із саду?’ ” 2 I
сказала жонка гаду: „Садавіну зь
дзерваў садовых ямо. 3 Але праз са-
давіну дзерва, што пасярод саду,
сказаў Бог: ‚Ня ежча зь яго і не
датыкайцеся да яго, каб вам не па-
мерці’ ”.
4 I сказаў гад жонцы: „Не, не
памрыцé сьмерцю; 5 бо ведае Бог,
што ў дзень, у каторым вы зь яго
есьці будзеце, і адчыняцца вочы ва-
шыя, і будзеце, як Багове, што ве-
даюць дабро й ліха”. 6 I бачыла
жонка, што дзерва добрае да ежы,
і што яно прынаднае ачом, і пажа-
данае тое дзерва дзеля веды; і ўзя-
лá садавіну зь яго а ела; і далá
таксама мужу свайму зь ёю, і ён еў.
7 I адчыніліся вочы ў іх абаіх, і
пазналі, што былі голыя; і сплялі
фіґовае лісьцё, і зрабілі сабе папя-
разкі.
8 I пачулі голас СПАДАРА Бо-
га, што хадзіў у садзе зь ветрам
дзянным; і схаваўся чалавек і жон-
ка ягоная ад віду СПАДАРА Бога
памеж дзярэўя садовага.
9 I гукнуў СПАДАР Бог чалаве-
ка, і сказаў яму: „Ідзе ты?” 10 I
сказаў: „Голас Твой пачуў я ў са-
дзе, і зьлякаўся, бо я голы, і сха-
ваўся”.
11 I сказаў: „Хто ж табе сказаў,
што ты голы? ці ня з гэнага дзер-
ва, з каторага Я заказаў табе есьці,
ты еў?” 12 I сказаў чалавек: „Жон-
ка, каторую Ты імне даў, яна далá
імне зь дзерва, і я паспытаўся”.
13 I сказаў СПАДАР Бог жон-
цы: „Што ж ты ўчыніла?” Жонка
сказала: „Гад спадмануў мяне, і я
паспыталася”.
14 I сказаў СПАДАР Бог гаду:
„За тое, што ты ўчыніў гэта, пра-
кляты ты над усю жывёлу і над усі
зьвяры палявыя; на бруху сваім
ты будзеш хадзіць, і пыл жэрці бу-
дзеш усі дні жыцьця свайго. 15 I
нéпрыязьньства палажу меж цябе
і меж жонкі, і меж семені твайго й
семені ейнага; яно будзе мяжджу-
ліць цябе ў галаву, а ты будзеш
жыгаліць яго ў пяту”.
16 Жонцы сказаў: „Памнажаю-
чы памножу смутак твой і цяжар-
насьць тваю; у смутку будзеш ра-
дзíць дзеці; і да мужа твайго па-
цяга твая, і ён будзе панаваць над
табою”.
17 Адаму ж сказаў: „За тое, што
ты паслухаў голасу жонкі свае і еў
з тога дзерва, з каторага Я заказаў
табе, кажучы: ‚Ня еж ізь яго’, пра-
клята зямля з твае прычыны, із
смуткам будзеш жывіцца зь яе ўсі
дні жыцьця свайго. 18 Церне а асот
будзе расьці табе; і будзеш жывіц-
ца палявою травою. 19 У поце віду
свайго будзеш есьці хлеб, пакуль
ня зьвернешся да зямлі, бо зь яе ты
ўзяты; бо пыл ты і ў пыл зьвер-
нешся”.
20 I назваў Адам імя жонкі свае:
Ева, бо яна былá маці ўсіх жыву-
чых.
21 I зрабіў СПАДАР Бог Адаму
й жонцы ягонай адзежу скураную,
і адзеў іх.
22 I сказаў СПАДАР Бог: „Вось,
людзінá сталася як адзін із Нас,
каб ведаць дабро й ліха; і цяпер
як бы ня выцягнуў ён рукі свае.
і ня ўзяў таксама зь дзерва жыцьць-
ця, і ня еў, і не пачаў жыць вечна”.
23 I выслаў яго СПАДАР Бог із
саду Эдэмскага, рабіць зямлю, з
каторае ён узяты. 24 Дык выгнаў
чалавека. I асяліў на ўсход ад саду
Эдэмскага херуваў зь мячом пола-
менным абаротным, сьцерагчы да-
рогу дзерва жыцьця.

# GREATLITVAN (BIELARUS) HOLY BIBLE

~~(revised)~~



Published by
FRANCIS SKORYNA GREATLITVAN (BIELARUS) SOCIETY of ARTS
and SCIENCES in the U. S., INC.

Printed in United States of America